№6 (310)
2012

# Права на волю

Праваабарончы бюлетэнь



Выступае мэр 11-й акругі г. Парыжа Патрык БЛОШ.

# Парыж за Алеся Бяляцкага!


Суэр БЕЛХАСЭН.

Праваабарончыя матэрыялы можна таксама прачытаць на сайтах: www.spring96.org; www.charter97.org; www.baj.by

Партрэт Алеся Бяляцкага, віцэ-прэзідэнта Міжнароднай Федэрацыі за правы чалавека (FIDH) і старшыні Праваабарончага цэнтру "Вясна", быў усталяваны перад мэрыяй 11-й акругі г. Парыжа ў пятніцу 11 траўня. Такім сімвалічным чынам французская сталіца далучыла свой голас да кампаніі за вызваленьне знакамітага беларускага праваабаронцы.

Суэр Белхасэн (Прэзідэнт FIDH), Патрык Блош (мэр 11-й акругі Парыжа) і П'ер Шапіра (намесьнік мэра Парыжа, упаўнаважаны па міжнародных адносінах) выступілі з рэзкім асуджэньнем бесперапынных рэпрэсіяў у Беларусі, запатрабавалі вызваленьня ўсіх палітычных зьняволеных і заклікалі да "моцнай, нагляднай і адзінай" мабілізацыі ўсёй міжнароднай супольнасьці.

На цырымоніі прысутнічалі паслы па правах чалавека шэрагу еўрапейскіх краінаў – Швецыі, Аўстрыі, Венгрыі, Нідэрландаў, Францыі, сябры Міжнароднага праўленьня FIDH, якія прыехалі з краінаў Афрыкі, Паўднёвай і Паўночнай Амерыкі, Усходняй і Заходняй Еўропы і Азіі, прадстаўнікі сяброўскіх арганізацыяў FIDH і журналісты.

Мерапрыемства прыцягнула вялікую ўвагу. Людзі, якія сабраліся на мітынг, скандавалі лозунгі, заклікаючы да неадкладнага вызваленьня Алеся Бяляцкага.

Нагадаем, 24 лістапада 2011 году суд Першамайскага раёну Менска асудзіў кіраўніка Праваабарончага цэнтру "Вясна", віцэ-прэзідэнта FIDH Алеся Бяляцкага да 4 гадоў і 6 месяцаў пазбаўленьня волі з канфіскацыяй маёмасьці, прызнаўшы яго вінаватым у нібыта ўчыненым злачынстве, прадугледжаным ч. 2 артыкулу 243 КК Рэспублікі Беларусь – "ўхіленьне ад выплаты сумаў падаткаў у асабліва буйным памеры". Праваабаронца сваёй віны не прызнаў і лічыць гэтую крымінальную справу палітычна матываванай. Прысуд атрымаў асуджэньне з боку грамадзянскай супольнасьці Беларусі і міжнароднай грамадзкасьці. На дадзены момант Алесь Бяляцкі адбывае пакараньне ў папраўчай калоніі № 2 у г. Бабруйску Магілёўскай вобласьці.

# "Суд маю справу папросту ігнаруе"

## Валянцін Стэфановіч дамагаецца пакараньня суддзі Алены Сямак

Намесьнік старшыні ПЦ "Вясна" Валянцін Стэфановіч 4 траўня накіраваў на імя старшыні Менскага гарадскога суда заяву пра грубейшае парушэньне заканадаўства з боку суддзі Цэнтральнага раёну Алены Сямак, якая зацягвае разгляд скаргі невыязнога праваабаронцы.

Як указана ў скарзе, Валянцін Стэфановіч 21 сакавіка зьвярнуўся ў суд Цэнтральнага раёну Менску са скаргай на дзеяньні Міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь. (Паводле даведкі з аддзелу па грамадзянстве і міграцыі Партызанскага РУУС г. Менску, рашэньнем менавіта гэтага міністэрства праваабаронцу абмежаваны выезд за межы Беларусі.) Паводле паштовага апавяшчэньня скарга атрыманая судом Цэнтральнага раёну 26 сакавіка. Аднак суддзя Алена Сямак, якой была перададзеная скарга ў вытворчасьць, дагэтуль не прызначыла разгляду ў судовым паседжаньні.

"Згодна з ч. 1 арт. 337 ГПК Рэспублікі Беларусь справы, якія ўзнікаюць з адміністрацыйна-прававых адносінаў, разглядаюцца судом не пазьней месячнага тэрміну ад дня паступленьня заявы ў суд, калі іншае не ўстаноўлена дадзеным Кодэксам і іншымі актамі заканадаўства. Такім чынам, мая скарга на дзеньні Міністэрства абароны па незаконным абмежаваньні майго права на выезд за межы Рэспублікі Беларусь павінна была быць разгледжаная суддзёй А. Сямак не пазьней за 26 сакавіка. Чаму дагэтуль не адбылося разгляду скаргі і чаму суддзя А. Сямак парушае патрабаваньні дзеючага заканадаўства пры ажыцьцяўленьні правасуддзя, мне не зразумела", – піша Стэфановіч старшыні Менгарсуда.

Праваабаронца лічыць, што сваімі дзеяньнямі суддзя Алена Сямак дапусьціла грубейшае парушэньне дзеючага заканадаўства пры ажыцьцяўленьні ёй правасуддзя. У сувязі з гэтым, кіруючыся артыкуламі 111, 114, 115, 119 Кодэксу Рэспублікі Беларусь аб судаўладкаваньні і статусе суддзяў, ён просіць узбудзіць дысцыплінарную вытворчасьць і прыцягнуць суддзю Алену Сямак да дысцыплінарнай адказнасьці, прадугледжанай дзеючым заканадаўствам.

"Гэта працяг своеасаблівага эксперыменту, які я праводжу ў зьвязку з тым, што мне незаконна абмежавана права на выезд з краіны, – тлумачыць Валянцін Стэфановіч. – Яго мэта – яшчэ раз прадэманстраваць, у што ператварылася наша, так бы мовіць, незалежная судовая сістэма. А ўвогуле пасьля таго, як скарыстаю ўсе магчымасьці на нацыянальным узроўні я планую зьвярнуцца ў Камітэт па правах чалавека ААН з індывідуальным зваротам аб тым, што, па-першае, мне незаконна, у тым ліку ў парушэньне патрабаваньняў Міжнароднага Пакту аб грамадзянскіх і палітычных правах, было абмежавана права пакідаць сваю краіну – выключна ў сувязі з маёй праваабарончай дзейнасьцю. Па-другое, мне было адмоўлена ў правасуддзі ў краіне, таму што я апеляваў да суда, а суд маю справу папросту ігнаруе".

Нагадаем, сёлета 11 сакавіка пры пераездзе дзяржаўнай мяжы Рэспублікі Беларусь у памежным пераходзе "Каменны лог" Валянціну Стэфановічу было адмоўлена ў праве выезду з Рэспублікі Беларусь. Паводле тлумачэньняў начальніка памежнай службы, пашпартныя зьвесткі праваабаронцы значацца ў банку дадзеных аб грамадзянах Рэспублікі Беларусь, права якіх на выезд з Рэспублікі Беларусь часова абмежавана.

# Дзярждэпартамент ЗША ўзнагародзіў Алеся Бяляцкага

## Заява прэс-сакратара Дзярждэпартаменту ЗША Вікторыі Нуланд

**Атрымальнікі Узнагароды за дзейнасьць у галіне абароны правоў чалавека**

Дзяржаўны дэпартамент ЗША рады аб'явіць, што Алесь Бяляцкі з Беларусі і Кааліцыя грамадзянскай супольнасьці па правах чалавека і канстытуцыйным праве з Уганды атрымалі Узнагароду за дзейнасьць у галіне абароны правоў чалавека 2011 г. Гэтая ўзнагарода адзначае асобаў і няўрадавыя арганізацыі, якія дэманструюць надзвычайную мужнасьць і лідарскія якасьці ў абароне правоў чалавека і дэмакратыі ва ўмовах рэпрэсіяў з боку ўраду.

Алесь Бяляцкі мужна бараніў правы пацярпелых ад перасьледу людзей і іх сем'і, нягледзячы на пагрозу з боку ўраду Беларусі. Як заснавальнік "Вясны", адной з буйнейшых праваабарончых арганізацыяў Беларусі, Бяляцкі прадстаўляў юрыдычную і практычную дапамогу ахвярам няспыннага перасьледу і выступаў ключавой крыніцай інфармацыі аб парушэньнях правоў чалавека. Зараз ён зьяўляецца палітычным зьняволеным, адбываючы турэмнае пакараньне ў чатыры з паловай гады за абарону правоў чалавека.

Кааліцыя грамадзянскай супольнасьці па пытаньнях правоў чалавека і канстытуцыйным праве Уганды ўзнагароджаная за эфектыўную абарону правоў прадстаўнікоў супольнасьці лесьбіянак, гееў, бісэксуалаў і транссэксуалаў (ЛГБТ), часта рызыкуючы ўласнай бясьпекай. Кааліцыя, якая складаецца з 40 НДА Уганды, пасьпяхова бароніць правы прадстаўнікоў ЛГБТ супольнасьці ў судах Уганды, распачала публічны дыялог па пытаньнях правоў ЛГБТ супольнасьці ва Угандзе, а таксама кінула выклік шырока распаўсюджанаму скажонаму ўспрыманьню і прадузятасьці. Структура Кааліцыі, эфектыўнасьць яе працы і ўзаемадзеяньне з грамадзянскай супольнасьцю Уганды служыць мадэльлю для праваабаронцаў ва ўсім сьвеце.

Сёлета на ўзнагароду былі намінаваныя прадстаўнікі з усіх куткоў сьвету. Сярод арганізацыяў былі намінаваныя НДА Common World (Агульны сьвет) і Little Bird Mutual Assistance Hotline (Гарачая лінія ўзаемадапамогі "Маленькая Птушка") з Кітая, а таксама Група ўзаемадапамогі і Цэнтр прававой дапамогі ў сферы правоў чалавека з Гватэмалы. Выбітная група асобаў прадстаўлена ў індывідуальнай намінацыі: Хорхе Молан з Калумбіі, Адзілур Рахман Зан з Бангладэш, Георг Фрыман з Сьера Леонэ, Гавінда Прасад Шарма Каірала з Непала, суддзя Высокага суда Свазілэнда Томас Масуку, Ігар Каляпін з Расіі, Зарганар з Бірмы і Зау Мін Хтут, абаронца правоў народа Рахінг'я, які зараз жыве ў Японіі.

Злучаныя Штаты салідарныя з гэтымі абаронцамі правоў чалавека і актывістамі грамадзянскай супольнасьці, якія робяць сваю цяжкую працу кожны дзень у любой частцы сьвету, каб зрабіць рэальнасьцю тое, што гарантавана Усеагульнай дэкларацыяй правоў чалавека.

*19 траўня*

## Аляксандр ДЗЯДОК:

# "Залежнасьць суддзяў даведзеная да абсурду"

***Аляксандр Дзядок адпрацаваў у судовай сістэме 18 гадоў. Так супала, што, калі ён выйшаў у адстаўку, на лаве падсудных аказаўся яго сын Мікалай – яго арыштавалі па гэтак званай справе менскіх анархістаў. Праваабаронцамі ён прызнаны палітвязьнем. Аляксандр расказаў карэспандэнту "Нашай Нівы" Сяргею Макарэвічу пра некаторыя асаблівасьці беларускага суда і справу свайго сына***



Аляксандр ДЗЯДОК.

***– У канцы 2009-га Вы сышлі ў адстаўку па выслузе гадоў з пасады суддзі крымінальнай калегіі Менскага абласнога суда. Чаму не хацелі працаваць далей?***

– Мне заўжды падабалася мая праца. Але суддзі абсалютна перасталі быць самастойнымі і выконваюць толькі загады. Даходзіла да абсурду: суддзя з кіраўніком узгадняў (гэта нонсэнс!) ня толькі артыкул Крымінальнага кодэксу, па якім чалавека судзіць, але і пакараньне. Суддзі баяцца прымаць самастойныя рашэньні. За апошнія гады іх адвучылі гэта рабіць. Усімі пытаньнямі кіруюць старшыні судоў, кіраўнікі судовай сістэмы, а імі – Адміністрацыя прэзідэнта. Чым больш я гэта разумеў, тым больш мне не хацелася быць марыянеткай у чыіхсьці руках.

***– Боязь самастойна прымаць рашэньні прыйшла разам з палітычнымі працэсамі?***

– Гэта датычыцца амаль усіх справаў – ня толькі палітычных.

***– На Вашай практыцы суддзяў здымалі за "няправільна" прынятыя рашэньні?***

– Не магу прыгадаць. Калі суддзя нешта зрабіў ня так, як хацела кіраўніцтва, то "разумныя" начальнікі ніколі не дзейнічалі груба і наўпрост. Маўляў, ты нас не паслухаўся і мы цябе здымаем. Усё робіцца нашмат танчэй. На суддзю пачынаюць ціснуць. Суддзя – гэта чалавек, таму чакаюць пакуль ён зробіць памылку альбо плюне і сыдзе сам.

***– Намесьнік старшыні Сьледчага камітэту Андрэй Швед заявіў, што летась узрасла колькасьць апраўдальных прысудаў – з 217 да 382. Пра што гэта сьведчыць?***

– Са свайго вопыту магу сказаць, што статыстыка ўвогуле можа быць двухбакова вострай. Мяркуючы па стане нашай судовай сістэмы, цяжка паверыць, што павялічылася колькасьць апраўдальных прысудаў. Гэта хутчэй за ўсё ведамасныя гульні са статыстыкай спадара Шведа і іншых кіраўнікоў сьледчых падраздзяленьняў. А іх у нас цяпер толькі два – падраздзяленьне ў КДБ і Сьледчы камітэт. І гэтая гульня, магчыма, вядзецца для таго, каб прадэманстраваць сваю дзейнасьць кіраўніцтву краіны. Але гэта ня сьведчыць пра ўзмацненьне ролі правасуддзя ў Беларусі. Кожны такі апраўдальны прысуд так і ці інакш узгадняецца на розных узроўнях і ня толькі судовых.

***– Як былы суддзя, што думаеце пра справу Вашага сына?***

– Гэта адно зьвяно з ланцугу крымінальна-палітычных справаў. Гэтая справа сьведчыць пра прэвентыўную зачыстку грамадзка-палітычнага поля. Разам з Мікалаем арыштоўвалі вялікую групу маладых людзей розных палітычных арыентацыяў. Ні прамых, ні ўскосных доказаў віны майго сына не было. Асноўнымі былі сьведчаньні двух маладых людзей. Аднаго з іх у судзе не дапыталі – знаходзячыся ў Менску, яго нібыта не знайшлі, каб выклікаць. Таму зачытваліся яго паказаньні з папярэдняга сьледзтва. У той жа час, калі трэба было затрымаць Ігара Аліневіча, правялі аперацыю сьпецслужбаў з яго захопам у Маскве і вывазам у Беларусь. А другі сьведка на працэсе заявіў пра ціск з боку супрацоўнікаў КДБ і МУС, пад якім ён агаварыў майго сына.

***– Тым ня менш, Мікалаю далі не самы маленькі тэрмін…***

– Прысуд празмерна суровы. Сына абвінавацілі па ч. 2 арт. 339 Крымінальнага кодэксу (злоснае хуліганства). Даволі аб'ёмны артыкул, які ўтрымлівае мноства кваліфікацыйных прыкметаў. У маёй практыцы не было выпадкаў, каб чалавека асудзілі па гэтым артыкуле на пазбаўленьне волі, калі не пацярпелі людзі. Прычына, лічу, адна – сын не прызнаў сваю віну. А тыя, хто агаварыў яго, зусім не трапілі на лаву падсудных. Хаця і прызнавалі, што ўдзельнічалі ў тых эпізодах. Мікалай быў і застаецца студэнтам ЕГУ. І як мне проста ў вочы заявілі супрацоўнікі сьпецслужбаў, гэта адна з прычынаў яго арышту.

***– Неаднаразовае зьмяшчэньне Мікалая ў ШІЗА, перавод у іншую калонію – спробы выбіць з яго прызнаньне віны?***

– Ціск на сына быў ад пачатку. А як толькі сын у калоніі ў Магілёве адмовіўся падпісаць прашэньне аб памілаваньні, на яго паступова ціск пачаў узрастаць. Яго пяць разоў каралі за надуманыя парушэньні (не зашпілены каўнерык, рукі ў кішэнях, не правільна адрэагаваў на заўвагу – як мне па тэлефоне сказаў начальнік калоніі). Спачатку пазбаўлялі перадачаў, скарачалі спатканьні альбо пазбаўлялі іх, затым зьмяшчалі ў ШІЗА. Сын казаў мне, што ён не павінен прызнавацца і раскайвацца ў тым, чаго не рабіў.

***– Па-Вашаму, ёсьць верагоднасьць, што яго адпусьцяць раней заканчэньня тэрміну?***

– Вярхоўны суд ужо пазбавіў яго права быць вызваленым па законе "Аб амністыі" 2010 году. Сын нарадзіўся ў Чарнобыльскай зоне, калі я працаваў пракурорам Брагінскага раёну. Але суд палічыў, што гэта няпраўда. І прымусіў Гомельскі абласны суд адмяніць рашэньне Брагінскага раённага суда, якім было ўстаноўлена гэта юрыдычна. Затым райвыканкам ануляваў законна выдадзенае сыну чарнобыльскае пасьведчаньне, якое давала падставы вызваліць яго і зьняць судзімасьць. Мы павінны гаварыць пра наяўнасьць у краіне палітвязьняў. Чым больш мы будзем гаварыць пра іх – тым лепш. Я ўпэўнены, што гэта можа спыніць асобных людзей у іх незаконных дзеяньнях.

# Замкнёнае кола...

## Ёсьць людзі, якія жадаюць прайсьці альтэрнатыўную службу, а закону няма...

Прадстаўнікі кампаніі "За альтэрнатыўную грамадзянскую службу" 16 траўня правялі прэс-канферэнцыю, падчас якой узьнялі праблему адсутнасьці ў Беларусі адмысловага закону, які б рэгуляваў парадак праходжаньня альтэрнатыўнай службы асобамі, якія па сваіх перакананьнях не жадаюць праходзіць вайсковую службу. У прэс-канферэнцыі прынялі ўдзел прадстаўнікі кампаніі "За альтэрнатыўную грамадзянскую службу" Яўген Асіеўскі і Кірыл Канстанцінаў, а таксама сёлетнія прызыўнікі, якія жадаюць прайсьці альтэрнатыўную службу: Алег Яўзрэзаў з Бабруйску і Андрэй Чарнавусаў з Ліды. Апошні ўжо падаў скаргу ў суд на рашэньне ваенкамата аб прызыве яго на вайсковую службу.

Альтэрнатыўная служба гарантуецца 57-м артыкулам Канстытуцыі і ўзгадваецца ў шасьці артыкулах Закону аб усеагульным вайсковым абавязку і воінскай службе. Але дамагчыся прайсьці яе замест службы ў войску амаль немагчыма. Актывісты кампаніі "За альтэрнатыўную службу ў Беларусі" кажуць, што многія маладыя хлопцы гатовыя аддаць доўг Радзіме, але толькі мірным спосабам і на тых месцах, дзе сапраўды бракуе працаўнікоў: у дамах састарэлых, дзіцячых дамах, хосьпісах, нават на будоўлях.

Каардынатар кампаніі "За альтэрнатыўную грамадзянскую службу" Яўген Асіеўскі адзначыў, што "артыкул Канстытуцыі аб альтэрнатыўнай грамадзянскай службе ёсьць". "У законе "Аб вайсковай службе" ёсьць некалькі артыкулаў, у якіх прысутнічае фармулёўка "альтэрнатыўная служба". Ёсьць людзі, якія жадаюць прайсьці альтэрнатыўную службу замест вайсковай. А закону, які б тлумачыў, як такую службу праходзіць, няма", – заявіў Яўген Асіеўскі.

"Асобы, якія дамагаюцца альтэрнатыўнай службы – гэта не "ўхілісты", а сьвядомыя адмоўшчыкі, якія не жадаюць праходзіць службу ў вайсковай форме, са зброяй у руках. Яны гатовыя да таго, што тэрмін службы іх будзе даўжэйшы, чым у выпадку службы ў войску", – зьвярнуў увагу прысутных журналістаў Яўген Асіеўскі.



Яўген АСІЕЎСКІ, Андрэй ЧАРНАВУСАЎ, Алег ЯЎЗРЭЗАЎ і Кірыл КАНСТАНЦІНАЎ.

Паводле зьвестак прадстаўнікоў кампаніі, падчас сёлетняга прызыву ў войска, які пачаўся 1 лютага і скончыцца 31 траўня, заяву на альтэрнатыўную грамадзянскую службу напісалі 12 чалавек. Кірыл Канстанцінаў зьвярнуў увагу на тое, што прызыўнікі вельмі часта ня ведаюць сваіх правоў, чым актыўна карыстаюцца ваенкаматы.

Андрэй Чарнавусаў з Ліды ў сярэдзіне сакавіка атрымаў позву ў ваенкамат. Калі запатрабаваў альтэрнатыўнай службы, яго накіравалі ў псіхіятрычны шпіталь на 5 дзён на абсьледаваньне. Лекары прызналі яго прыдатным да службы: "Ваенкам мне патлумачыў, што праходжаньне альтэрнатыўнай грамадзянскай службы ў нашай краіне немагчымае, бо няма закону. Але я пацыфіст, мяне бацькі так выхавалі, што зброю браць у рукі я катэгарычна не магу. Таксама і насіць вайсковую форму".

У Алега Яўзрэзава з Бабруйску была адтэрміноўка, зьвязаная з хваробай сэрца, потым яшчэ адна. Але потым ваенкамат прызнаў яго прыдатным. 12 красавіка ён напісаў заяву з патрабаваньнем накіраваць яго на альтэрнатыўную службу: "Яны мне адмовілі з той прычыны, што закону такога няма і няма чаго патрабаваць. Я, вядома, ня згодны з такім рашэньнем, бо не магу браць зброю ў рукі. І наогул не прымаю гвалт, ніякія яго формы: зброю, форму. І цяпер мы накіравалі ў суд скаргу".

Штомесяц на гарачую лінію тэлефануе да дзьвюх сотняў прызыўнікоў, часьцяком з самымі прымітыўнымі пытаньнямі, кажа Яўген Асіеўскі: "У іх вельмі нізкія прававыя веды, яны практычна нічога ня ведаюць пра свае правы, і ваенкаматы гэтым карыстаюцца. Вось прыклад. Пагражалі маці звольніць з працы за тое, што яны ня могуць знайсьці сына. Сын жыве не па месцы рэгістрацыі, і ваенкамат вырашыў не шукаць яго сам ці з дапамогай міліцыі, а проста выклікалі маці, якая працуе дырэктарам школы ў Слуцкім раёне, і прыгразілі, што звольняць. Складаецца ўражаньне, што па ўсёй краіне ваенкаматы лютуюць".

Каардынатар кампаніі Кірыл Канстанцінаў заўважае: "Ва ўсіх нарматыўных дакументах пазначана магчымасьць праходзіць альтэрнатыўную службу, але механізм нідзе не прапісаны".

Пакуль атрымліваецца замкнёнае кола. Тэарэтычна магчымасьць прайсьці альтэрнатыўную службу быццам бы і ёсьць, але на практыцы дамагчыся гэтага амаль немагчыма, кажа Яўген Асіўскі: "Лісты і звароты напісалі ўсюды, куды можна: і ў Міністэрства працы, і ў Міністэрства абароны. Мы пісалі кожнаму чальцу працоўнай групы па стварэньні гэтага закону. Ва ўсіх адказах – адно і тое ж: закон распрацоўваецца, і нічога канкрэтнага".

Варта адзначыць, што праект Закону аб альтэрнатыўнай грамадзянскай службе пачалі распрацоўваць яшчэ на пачатку 1990-х дэпутаты Вярхоўнага Савету 12-га скліканьня. У 2000-м годзе Канстытуцыйны суд даў даручэньне распрацаваць закон. У 2010-м годзе пасьля рэзанансных справаў Смыка, Міхайлава і Якавенкі, якіх асудзілі за ўхіленьне ад вайсковай службы, Аляксандар Лукашэнка таксама заявіў, што трэба распрацаваць закон. Але яго дагэтуль няма.

# Рэформы непазьбежныя

## ПЦ "Вясна" пачынае маніторынг пенітэнцыярнай сістэмы

Уся інфармацыя, якая тычыцца аналізу пенітэнцыярнага заканадаўства і маніторынга пенітэнцыярнай сістэмы, будзе публікавацца ў тэматычнай рубрыцы на сайце Праваабарончага цэнтру "Вясна". Эксьперт рубрыкі – юрыст Павел Сапелка.

Актуальнасьці праблемы парушэньня правоў чалавека ў дачыненьні да людзей, якія ўтрымліваюцца пад вартай і адбываюць пакараньне, а таксама якія знаходзяцца ў іншых сьпецустановах, Павел Сапелка прысьвяціў гэты артыкул: "Відавочны сілавы акцэнт у палітыцы дзяржавы, нарастаючы ў сувязі з той ці іншай грамадзка значнай падзеяй, робіць як ніколі актуальнай тэму пенітэнцыярнага заканадаўства, правапрымяняльнай практыкі і становішча асуджаных і асобаў, абмежаваных у правах у сувязі з утрыманьнем у рознага роду ўстановах. Цяжкая сітуацыя з правамі чалавека ў Беларусі склалася як у месцах пазбаўленьня волі ў традыцыйным разуменьні – у калоніях, сьледчых ізалятарах, турмах, так і ва ўстановах, дзе дэкларуюцца іншыя, акрамя пазбаўленьня волі, функцыі – сьпецыяльных псіхіятрычных установах, лячэбна-працоўных прафілакторыях, сьпецыяльных вучэбна-выхаваўчых установах.

Захаваньню правоў чалавека, у тым ліку, зьняволеных, прысьвечана дзейнасьць уплывовых міжнародных органаў. Разуменьне дзяржавамі-ўдзельніцамі Арганізацыі Аб'яднаных Нацыяў шакуючага становішча зьняволеных пацягнула прыняцьце дакументаў, якія адмыслова вызначаюць іх правы. У прынятым у 1955 годзе дакуменце "Мінімальныя стандартныя правілы абыходжаньня са зьняволенымі" ўстаноўлены нормы, якія ўключаюць прынцыпы аказаньня медыцынскай дапамогі ва ўмовах зьняволеньня. У 1977 годзе дзеяньне "Правілаў" было распаўсюджана і на асобаў, якія падвяргаюцца затрыманьню без прад'яўленьня абвінавачаньня, то бок якія зьмяшчаюцца ў месцах іншых, чым турмы.

Нацыянальнае пенітэнцыярнае заканадаўства, якое ўключае Крымінальна-выканаўчы кодэкс, правілы ўнутранага распарадку розных тыпаў установаў, законы і інструкцыі адпаведнай тэматыкі ў цэлым імплементавала прынцыпы, замацаваныя ў міжнародных дамовах Рэспублікі Беларусь, аднак не ўлічвае агульнаеўрапейскіх тэндэнцыяў у разуменьні асноўных правоў чалавека. Тым больш, далёкая ад разуменьня і павагі правоў і свабодаў практыка ўтрыманьня асуджаных у месцах пазбаўленьня або абмежаваньня волі. Дзяржава, дэкларуючы намеры прытрымлівацца сваіх абавязкаў у галіне правоў чалавека, не сьпяшаецца рэфармаваць дзейнасьць сістэмы выкананьня пакараньняў; кантроль грамадзкіх аб'яднаньняў, нават у заканадаўча выхалашчаным выглядзе, хутчэй за фіктыўны, чым эфектыўны.




Статыстыка па асобах, якія адбываюць пакараньня і якія ўтрымліваюцца пад вартай,названымі ведамствамі не выдаецца. Такія зьвесткі зрэдку агучваюцца тымі ці іншымі службовымі асобамі розных органаў. Аднак немагчыма зрабіць выснову пра дакладнасьць гэтых зьвестак.

Тэхнічны стан месцаў зьняволеньня, за невялікім выключэньнем, такі, што ў дачыненьні да зьняволеных не выконваюцца нават нацыянальныя правілы, якія вызначаюць, у прыватнасьці, дапушчальную колькасьць асобаў на адзінку плошчы і аб'ёму памяшканьня, а таксама санітарна-эпідэміялагічныя нормы. У памяшканьнях сьледчых ізалятараў і месцаў утрыманьня адміністрацыйна арыштаваных, а часьцяком і ў калоніях, адсутнічае дастатковае асьвятленьне і прыток сьвежага паветра, што спрыяе ўзнікненьню і разьвіцьцю сьпецыфічных захворваньняў. Медыцынскае абслугоўваньне зьняволеных выклікае шмат нараканьняў у сувязі з недастатковасьцю абсталяваньня, медыкаментаў і кваліфікацыі персаналу. Адзначаецца абыякавае стаўленьне медыцынскага персаналу да скаргаў зьняволеных і непрыняцьце мераў па выяўленьні і дыягностыцы захворваньняў.

Большасьць зьняволеных адзначаюць нізкую якасьць харчаваньня і адзеньня, якое ім выдаецца. Пры гэтым штучна, а часта нематывавана, абмяжоўваюцца магчымасьці зьняволеных па набыцьці прадуктаў харчаваньня і сродкаў асабістай гігіены за свой кошт.

Праца зьняволеных, якая мусіць служыць сродкам рэсацыялізацыі і дазваляць абслугоўваць матэрыяльныя патрэбы зьняволенага і яго сям'і, кампенсаваць нанесеную пацярпелым шкоду, балансуе на мяжы вызначэньня рабскай, то бок, якая выконваецца пад прымусам і без аплаты.

Недастатковыя меры прымаюцца для захаваньня сацыяльных сувязяў асуджанага. Так, кантралююцца і нематывавана, альбо ў якасьці пакараньня, абмяжоўваюцца тэлефонныя і асабістыя зносіны зьняволенага з роднымі і блізкімі. Абмяжоўваюцца магчымасьці атрыманьня адукацыі.

Нагляд пракуратуры за выкананьнем пакараньняў фармальны і абмяжоўваецца, як правіла, канстатацыяй тых парушэньняў, якія ў сілу іх паўсюднага і відавочнага распаўсюджаньня, як, напрыклад, перапоўненасьць калоніяў і ізалятараў, немагчыма схаваць. Намаганьнямі адміністрацыяў месцаў зьняволеньня і абыякавасьцю пракурорскіх і судовых органаў створана разуменьне поўнай бесперсьпектыўнасьці скаргаў. Паўнамоцтвы пракуратуры па ўзбуджэньні крымінальных справаў у дачыненьні да супрацоўнікаў органаў унутраных справаў заканадаўча перададзеныя Сьледчаму камітэту.

Такім чынам, дасьледаваньне і аналіз пенітэнцыярнага заканадаўства на прадмет адпаведнасьці агульнапрызнаным нормам, якія вызначаюць правы і свабоды, а таксама маніторынг пенітэнцыярнай сістэмы дасьць магчымасьць вызначыць персьпектывы гуманізацыі выкананьня пакараньня і сфармуе правільнае стаўленьне да праблемы ў грамадстве. У ідэале, сістэмная дзейнасьць у гэтым напрамку здольная заахвоціць дзяржаву да рэформы як заканадаўства, так і практыкі яго прымяненьня".

*Заклікаем усіх, хто валодае інфармацыяй пра становішча асуджаных і асобаў, абмежаваных у правах у сувязі з утрыманьнем у розных установах, ці хоча распавесьці пра асабістыя праблемы такога кшталту, пісаць на электронны адрас:*
*info.zakratami@gmail.com*
*або на паштовы адрас:*
*220114, Мінск, а/с 203.*

# Вайна супраць Маладога Фронту

14 траўня міліцыянты, адамкнуўшы дзьверы сваім ключом, уварваліся ў кватэру, дзе знаходзіліся актывісты Маладога Фронту. Цэлыя суткі ні праваабаронцы, ні сваякі ня ведалі, дзе знаходзяцца затрыманыя маладафронтаўцы. Супрацоўнікі міліцыі адамкнулі ключамі кватэру актывістаў і схапілі Мікалая Дземідзенку, Зьмітра Крэмянецкага і Рамана Васільева. Усіх паклалі на падлогу тварам уніз, пры найменшым супраціўленьні зьбівалі. Актывісты толькі 11 траўня выйшлі на волю пасьля 15-суткавых арыштаў за "Чарнобыльскі шлях". Маці Рамана Васільева спадарыні Ірыне не давалі ніякай інфармацыі пра месцазнаходжаньне сына – спачатку ў пастарунку, а потым і ў судзе.

"Я пасьля такой ночы ні пра што не хачу гаварыць. Тэлефанавала па ўсіх РУУС, мне ўсюды казалі, што яго няма. У прыватнасьці, у Цэнтральным РУУС мне казалі – няма, і калі б быў, то сто разоў сказалі б. Гэта было ў 6 раніцы, у 9 раніцы і ноччу. Потым бралі слухаўку і кідалі. То бок я ня ведала, як ён, дзе ён, ці жывы-здаровы і што адбываецца, – распавяла спадарыня Ірына".

15 траўня ў Цэнтральным судзе Менску адбыліся працэсы супраць маладафронтаўцаў. Зранку ў Цэнтральным судзе казалі, што судзіць там хлопцаў ня будуць і што ніякіх працэсаў адносна іх не прызначана. Потым міліцыянты прывезьлі Мікалая Дземідзенку, Зьмітра Крэмянецкага і Рамана Васільева. Мікалая Дземідзенку судзілі літаральна 15 хвілінаў, не дачакаўшыся адваката. Журналістаў, якія спрабавалі прайсьці ў залу, выштурхнулі людзі ў цывільным, сказаўшы – маўляў, ня трэба рабіць балагану. На працэс над Раманам Васільевым судзьдзя Алена Ткачова пусьціла толькі адваката Яўгена Маслава і сказала, што для журналістаў і маці Рамана ў яе кабінеце няма месца. У памяшканьне для сакратароў перад кабінетамі судзьдзяў людзі ў цывільным нікога не пускалі, а потым замкнулі дзьверы на ключ. Зьмітра Крэмянецкага судзілі падчас перапынку на абед, калі ўсіх прысутных папрасілі выйсьці з будынку. У выніку іх абвінавацілі паводле артыкулу 17.1 у дробным хуліганстве і арыштавалі: Рамана Васільева – на 12 сутак, а Мікалая Дземідзенку і Зьмітра Крэмянецкага – на 10.

17 траўня суд Фрунзенскага раёну Менску асудзіў маладафронтаўца Уладзіміра Яроменку на 7 сутак арышту, Паўла Сяргея – на 5 сутак. Іх зьвінавацілі паводле артыкулу 17.1 Адміністрацыйнага кодэксу ў дробным хуліганстве. Абодвух затрымалі напярэдадні ва ўласных кватэрах.

У суд Уладзіміра Яроменку і Паўла Сяргея даставілі з турмы на вуліцы Акрэсьціна, дзе яны правялі папярэднюю ноч. Уладзімір Яроменак паведаміў, як адбывалася яго затрыманьне: "Сядзеў дома, прыкладна каля 15.00 дня – адчыняюцца дзьверы ў кватэру, якія былі зачыненыя, урываюцца два чалавекі, кладуць мяне тварам у падлогу і надзяваюць кайданкі".

Актывісты зарэгістраванай у Чэхіі арганізацыі Малады Фронт толькі за адзін няпоўны год былі асуджаныя да адміністрацыйных арыштаў на 350 сутак. Гэта абсалютны рэкорд, усталяваны беларускімі ўладамі. Актывістка арганізацыі Кася Галіцкая перакананая, што такім брутальным чынам улады Беларусі намагаюцца дабіць адну з самых актыўных моладзевых арганізацыяў. Выкарыстаньне практыкі прэвентыўных арыштаў і затрыманьняў пасьля паспяховых акцыяў – помста сілавікоў маладафронтаўцам за іх "партызанскую вайну".

Пад час прэсавай канферэнцыі, якую правялі актывісты Маладога Фронту 21 траўня, было абвешчана аб пачатку двухтыднёвай кампаніі салідарнасьці з адміністрацыйна затрыманымі сябрамі арганізацыі, сярод якіх Мікалай Дземідзенка, Раман Васільеў, Павел Сяргей, Уладзімір Яроменак, Зьміцер Крэмянецкі. У межах абвешчанай кампаніі Малады Фронт плануе зьвяртацца ва ўсе магчымыя міжнародныя структуры і інстытуты, а таксама ў моладзевыя еўрапейскія арганізацыі з заклікам данесьці праблему татальнага перасьледу Маладога Фронту да ўрадаў сваіх краінаў.

# Спыніце незаконны адміністрацыйны перасьлед

## Заява Праваабарончага цэнтру "Вясна"

Праваабарончы цэнтр "Вясна" асуджае незаконнае прыцягненьне да адміністрацыйнай адказнасьці ў выглядзе арыштаў моладзевых актывістаў Міхаіла Мускага, Зьміцера Крэмянецкага, Рамана Васільева, Мікалая Дземідзенкі, Паўла Вінаградава, а таксама праваабаронцы Алега Воўчака.

Канстатуем, што ў Беларусі ўкаранілася ганебная практыка прыцягненьня да адміністрацыйнай адказнасьці ў выглядзе адміністрацыйнага арышту грамадзкіх актывістаў.

Мы заяўляем, што сістэматычнае асуджэньне грамадзкіх дзеячоў на падставе сфальсіфікаваных матэрыялаў аб адміністрацыйным правапарушэньні за дробнае хуліганства зьяўляецца злачыннай формай адвольных затрыманьняў. Прыкра, што ў гэты незаконны перасьлед ўцягнутыя ня толькі органы ўнутраных справаў, але і суды, якія выносяць прысуды на падставе няпраўдзівых матэрыялаў.

Так, Міхаіл Мускі, Зьміцер Крэмянецкі, Мікалай Дземідзенка агулам толькі за вясну 2012 г. незаконна былі асуджаны на 37 сутак адміністрацыйнага арышту, а Павел Вінаградаў і Алег Воўчак двойчы асуджаліся на падставе сфальсіфікаваных супрацоўнікамі міліцыі матэрыялаў.

Праваабарончы цэнтр "Вясна" лічыць, што ўсе ўзгаданыя асобы незаконна і неаднаразова пазбаўляліся волі на працяглы тэрмін, і таму могуць на перыяд свайго затрыманьня лічыцца палітычнымі вязьнямі. Іх перасьлед носіць выключна палітычны характар і зьвязаны з іх грамадзка-палітычнай дзейнасьцю.

**Праваабарончы цэнтр "Вясна" настойліва патрабуе:**

– неадкладнага спыненьня практыкі адміністрацыйнага перасьледу і незаконнага асуджэньня грамадзкіх актывістаў па сфальсіфікаваных абвінавачаньнях;

– прыцягненьня да адказнасці ўсіх віноўных у незаконых асуджэньнях службовых асобаў;

– кампенсацыі страты здароўя і маральных пакутаў усім незаконна асуджаным.

*Менск, 25 траўня 2012 г.*

# Парфянкова пакаралі арыштам на паўгода

29 траўня ў судзе Першамайскага раёну Менску распачаўся судовы разгляд крымінальнай справы былога палітвязьня Васіля Парфянкова. Яго абвінавачваюць у невыкананьні патрабаваньняў прэвентыўнага нагляду (арт. 421 КК РБ).

Справу разглядаў суддзя Сяргей Бандарэнка, які 24 лістапада 2011 году асудзіў старшыню Праваабарончага цэнтру "Вясна" Алеся Бяляцкага да 4,5 гадоў калоніі.

Абвінавачаньне лічыць, што Васіль Парфянкоў тройчы парушыў рэжым превентыўнага нагляду. Аднойчы былы палітвязень спазніўся на адзначэньне ў органе, які ажыцьцяўляе нагляд. Двойчы супрацоўнікі міліцыі прыходзілі да яго дадому ў той час, калі Васіль выходзіў у краму. Санкцыя артыкулу 421 КК РБ прадугледжвае арышт тэрмінам да шасьці месяцаў альбо пазбаўленьне волі тэрмінам да аднаго году.



Васіль ПАРФЯНКОЎ.

Прэвентыўны нагляд усталяваны за Васілём Парфянковым 5 студзеня 2012 году тэрмінам на адзін год. Пра ўзбуджэньне крымінальнай справы Першамайскі раённы аддзел Следчага камітэту г. Менску паведаміў былому палітвязьню 19 красавіка.

Васіль Парфянкоў заявіў адвод судзьдзі, паколькі не давярае яму з-за прысудаў у палітычна матываваных справах Алеся Бяляцкага і Уладзіміра Яроменкі. Пасьля перапынку суддзя адхіліў адвод. У залу запусьцілі людзей, якія чакалі ў калідоры: праваабаронцаў, дыпламатаў, актывістаў "Гавары праўду".

У якасьці сьведкі ў суд выклікалі Аляксандра Макаева. Аб гэтым прасіў Парфянкоў. Хадайніцтва аб вядзеньні працэсу на беларускай мове адхіленае. У судзе выступілі сьведкі: інспектар міліцыі Першамайскага раёну Менску Пяркоў, бацькі Парфянкова, Аляксандр Макаеў. Пракурор Сцяпурка запатрабаваў для Парфянкова год калоніі строгага рэжыму. Суд прызнаў Парфянкова вінаватым у парушэньні ўмоваў прэвентыўнага нагляду. Парфянкова пакаралі арыштам на 6 месяцаў. Мера стрыманьня – падпіска аб нявыездзе – засталася ранейшай да ўступленьня прысуду ў законную сілу.

# Палітычна матываваны прысуд

## Заява Праваабарончага цэнтру "Вясна" з нагоды крымінальнага прысуду Васілю Парфянкову

29 траўня судом Першамайскага раёну Менску грамадзкі актывіст Васіль Парфянкоў быў асуджаны на 6 месяцаў арышту па арт. 421 КК Рэспублікі Беларусь (за парушэньні ўмоваў прафілактычнага нагляду, устаноўленага судом).

Васіль Парфянкоў у лютым 2011 году быў асуджаны да чатырох гадоў пазбаўленьня волі па ч. 2 арт. 293 КК РБ ("удзел у масавых беспарадках") за ўдзел у акцыі пратэсту супраць фальсіфікацыяў падчас прэзідэнцкіх выбараў, у жніўні таго ж году – памілаваны згодна з указам прэзідэнта.

Пасьля свайго вызваленьня Васіль Парфянкоў працягваў грамадзкую дзейнасьць і неаднаразова затрымліваўся за ўдзел у акцыях ў падтрымку беларускіх палітвязьняў, якія застаюцца за кратамі.

Прысуд цалкам зьвязаны з папярэднім перасьледам Васіля Парфянкова і разглядаецца намі як далейшы ціск уладаў на актывістаў, што былі асуджаныя па выніках падзеяў 19 сьнежня 2010 г., а таксама як спроба запалохваньня актыўнай часткі беларускага грамадства.

Праваабарончы цэнтр "Вясна" з засьцярогай і занепакоенасьцю адзначае, што прэвентыўны нагляд таксама ўстаноўлены над моладзевымі актывістамі Уладзімірам Яроменкам і Паўлам Вінаградавым, што можа ў далейшым пацягнуць за сабой крымінальную адказнасьць за фармальнае парушэньне ўмоваў адбыцьця прэвентыўнага нагляду.

Праваабарончы цэнтр "Вясна" расцэньвае прысуд Васілю Парфянкову цалкам палітычна матываваным, а самога Васіля палітычным вязьнем з моманту пачатку адбыцьця пакараньня.

**Праваабарончы цэнтр "Вясна" рашуча патрабуе:**

– спыненьня палітычнага перасьледу усіх грамадзкіх актывістаў;

– неадкладнага вызваленьня ўсіх палітычных вязьняў;

– зьняцьця (пагашэньня) судзімасьці з усіх незаконна асуджаных па падзеях 19 сьнежня 2010 году, што будзе расцэнена як крок да іх рэабілітацыі і дазволіць такім асобам працягнуць сваю грамадзкую і палітычную дзейнасьць.

*Менск,
29 траўня 2012 году*

## Касацыйная скарга не задаволена

**18 траўня Віцебскі абласны суд не задаволіў касацыйную скаргу Сяргея Каваленкі на рашэньне Першамайскага райсуда, які прысудзіў актывісту 2 гады і 1 месяц зьняволеньня. Перад пачаткам працэсу затрымалі жонку Сяргея Алену Каваленку, ягонага брата Канстанціна і актывістку Алену Семенчукову. У залу суда, якая была запоўненая пераапранутымі супрацоўнікамі міліцыі, пусьцілі толькі выканаўцу абавязкаў старшыні Кансерватыўна-хрысьціянскай партыі БНФ на Беларусі Юрася Беленькага, адказнага сакратара ўправы партыі Алеся Чахольскага, а таксама бацьку Сяргея. На пачатку суд не задаволіў хадайніцтва аб прысутнасьці на разглядзе скаргі самога Сяргея. Юрась Беленькі распавёў: "Адвакаты падтрымалі хадайніцтва. Аднак пракурор сказаў, што раней усё было дасьледавана, таму, маўляў, наўрад ці што новага мы пачуем ад Сяргея Каваленкі. Пасьля перапынку суд падтрымаў пракурора".**

**Паводле словаў Сяргеевага бацькі спадара Аляксандра, працэс цягнуўся каля гадзіны. Ён лічыць, што рашэньне суда было падрыхтавана раней: "Прасілі, каб на судзе прысутнічаў Сяргей, але пракурор сказаў, што абвінавачаны можа не прысутнічаць. Я там выступіў, што, канечне, у такім выглядзе, з вагой у 45 кілаграмаў, куды ж вы яго павезяце, каму ж вы будзеце паказваць яго?".**

# ЛТП: прымусовая праца ў жахлівых умовах


Фота Ірыны ПАПОВАЙ

Прымусовае накіраваньне грамадзянаў у лячэбна-працоўныя прафілакторыі (ЛТП) нярэдка адбываецца з парушэньнямі правоў чалавека, абмежаваньнямі права на свабоду, выкарыстаньнем прымусовай працы. Таму праваабаронцы надаюць вялікую ўвагу збору інфармацыі пра катаваньні і бесчалавечнае абыходжаньне, умовы ўтрыманьня хворых на алкагалізм у гэтых установах. Сьведчаньні грамадзянаў, якія праходзілі "лячэньне" ў ЛТП – адна з важных крыніцаў такой інфармацыі.

Мінчука Сяргея Макойця, які быў зьмешчаны па рашэньні суда Фрунзенскага раёну Менску ў ЛТП тэрмінам на 1 год, яшчэ ў сакавіку мінулага году проста з месца працы забралі супрацоўнікі міліцыі, паведаміўшы, што нібыта ён рэгулярна спажывае алкагольныя напоі. У прымусовым парадку яго адвезьлі ў наркалагічны дыспансер, дзе была выдадзеная даведка аб тым, што на ўліку Макойць тут не стаіць. Затым была медычная камісія, якая выдала наступнае заключэньне: "Дадзеная асоба не з'яўляецца алказалежнай. Праблемаў з ужываньнем алкаголю не выяўлена. Па стане здароўя можа ўтрымлівацца ў ЛТП".

У той жа дзень адбыўся суд, які доўжыўся 5 хвілінаў. Суддзя ўдакладніла прозьвішча, дату нараджэньня і абвесьціла сваё рашэньне: накіраваць у ЛТП тэрмінам на 12 месяцаў. На гэтым пакуль усё і скончылася. Макойця адпусьцілі дадому. Ён, па-ранейшаму працаваў, даглядаў хворага бацьку. Нечакана, праз адзінаццаць месяцаў, а дакладней 27 лютага, да яго завітаў участковы і запрасіў на кароткую размову. Паводле словаў Сяргея Макойця, яго адвезьлі ў ГОМ Маскоўскага раёну Менску, дзе трымалі ў камеры амаль суткі, адмаўляючыся тлумачыць прычыну затрыманьня. Затым адвезьлі ў Фрунзенскі РУУС, а адтуль пад канвоем адправілі ў дыспансер і на новую медычную камісію, якая вынесла аналагічнае ранейшаму рашэньне. У той жа дзень, на гэты раз нават без ўдзелу Сяргея, адбыўся новы суд і яго накіравалі ў ЦІП на Акрэсьціна. На другі дзень ён быў этапаваны ў Навагрудак у ЛТП. На ўсе просьбы прадаставіць копіі судовага рашэньня, каб абскардзіць яго ў устаноўлены тэрмін, атрымаў адмовы.

Варта дадаць, што зьмяшчэньне ў ЛТП адбываецца пасьля заканчэньня тэрміну абскарджаньня пастановы суда. Аднак, нярэдка, рашэньне суда знарок дасылаецца пазьней вызначанага дзесяцідзённага тэрміну яго абскарджаньня (у тых выпадках, калі "асуджаны" неадкладна пасьля вынясеньня рашэньня зьмяшчаецца ў ЛТП), і чалавек не можа абскардзіць рашэньне аб зьмяшчэньні яго ў ЛТП.

Пра ўмовы ўтрыманьня ў лячэбна-працоўным прафілакторыі распавядае Сяргей Макойць: "Пасьля двухтыднёвага каранціну я пачаў працаваць, прычым за тэрыторыяй ЛТП. Але літаральна праз некалькі дзён мяне этапавалі на новае месца, у Дзяржынск. Умовы ўтрыманьня тут проста жахлівыя. У перапоўненым памяшканьні казарменнага тыпу знаходзіцца адначасова 320 чалавек, ложкі размешчаны ў 3 ярусы. Мы палічылі, што на аднаго чалавека прыпадае меней за паўметра плошчы. З-за гэтага распаўсюдзіўся педыкулёз. Адзіная рэакцыя медыкаў на гэта – пратраўліваньне памяшканьня хлоркай.

Лазьня невялічкая – тры душавыя адсекі і некалькі кранаў. Мыцца можна раз на тыдзень, з 15 да 17 гадзінаў. Памыць бялізну дазваляецца толькі ў нядзелю. Таму многія не пасьпяваюць гэтага зрабіць. А калі, напрыклад, чалавек на прамысловай зоне памыў шкарпэткі, то атрымаў за гэта 10 сутак карцару.

Пасьля пад'ёму ў 6 раніцы трэба пасьпець да першай праверкі наведаць прыбіральню, каля якой выстрайваюцца вялізныя чэргі. Другая праверка пачынаецца ў 8-20, пасьля якой вядуць у невялікую сталоўку на сьняданак. Толькі пасьля гэтага выводзяць у прамысловую зону на працу, якая аплочваецца крайне нізка. На працоўным месцы нас чакаюць яшчэ дзьве праверкі, якія зводзяцца да пераклічкі і прад'яўленьні сьпецыяльнай асабовай карткі.

Лячэньня ад алкагалізму няма аніякага. У санчастцы – анальгін, аспірын, ёд. За час майго знаходжаньня ў ЛТП выявіліся 2 выпадкі адкрытай формы туберкулёзу. Праўда, затым іх адпусьцілі дадому".

Нядаўна ў Макойця памёр бацька і яму давялося абвесьціць галадоўку, каб яго адпусьцілі на некалькі дзён дадому, хаця як і любы іншы пацыент ЛТП, ён мае права на адзін адпачынак працягласьцю 10 сутак. Толькі пасьля прыезду маці з пасьведчаньнем аб сьмерці, начальнік ЛТП "літасьціва" дазволіў яму 2 сутак адпачынку.

Лячэбна-працоўныя прафілакторыі альбо ЛТП зьявіліся ў былым СССР ў 60-х гадах мінулага стагоддзя. У гэтую ўстанову па пастанове суда накіроўваліся людзі на прымусовае лекаваньне ад алкагалізму і наркаманіі. ЛТП знаходзіўся тады і працягвае знаходзіцца зараз ў сістэме МУС і мала чым адрозьніваецца ад звычайнай зоны. З усіх постсавецкіх краінаў падобныя ўстановы захаваліся толькі ў Беларусі і Туркменіі.

"Права на волю". Праваабарончы бюлетэнь. Выходзіць два разы на месяц.
Наклад 299 асобнікаў. Пры перадруку спасылка на бюлетэнь абавязковая.